# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 1 (1193) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 7 СТУДЗЕНЯ 1979 г. ЦАНА 60 гр.

## У ДАРОЗЕ

*Абапал дарогі*
*Пагоркі, сады,*
*Палеткаў разлогі.*
*Лясок малады.*
*Пранізвае цішу*
*Сярэбраны свіст —*
*То далі калыша*
*Гудком машыніст.*
*Як песня, што рвецца*
*Са струн, з-пад смыка,*
*Цягнік наш імкнецца,*
*Грыміць на стыках.*
*І з ім я імчуся*
*У вольны прастор,*
*К сваёй Беларусі,*
*Да сініх азёр,*
*Да сонечных высяў,*
*Успененых рэк,*
*Што ў сэрца ўліліся*
*З маленства навек.*
*Мяне тут люляла*
*Нядоля мая.*
*Я шчасце гукала*
*У сонных гаях,*
*Тут думкі снавала*
*Пад звон ручая,*
*І сумна гучала*
*Тут песня мая.*
*Сягоння на полі*
*Радзімы ўсяе*
*Аб радаснай долі*
*Пшаніца пяе.*
*Пад чыстым блакітам,*
*Пад сонцам вясны*
*Калышацца жыта,*
*Сінеюць ільны.*
*Вясёлыя хаты —*
*Над плёсам ракі.*
*З уловам багатым*
*Плывуць рыбакі.*
*Касілкі стракочуць —*
*Ідзе сенакос.*
*Праменні у вочы*
*Шугаюць ад рос.*
*Пранізвае цішу*
*Сярэбраны свіст —*
*То далі калыша*
*Гудком машыніст.*
*Я еду сягоння*
*Здалёку, як госць,*
*Дадому, дзе звоніць*
*Мая маладосць.*

**Канстанцыя Буйло**



*Польскія пісьменнікі ля помніка Леніну ў Мінску. Далей — Дом урада.*




Калі шэсць дзесяцігоддзяў таму назад, 1 студзеня 1919 года, у знішчаным вайною Мінску Часовы рабоча-сялянскі ўрад Беларусі, на чале якога стаяў выдатны палітычны дзеяч і пісьменнік Змітрок Жылуновіч, маніфестам абвяшчаў Беларусь суверэннай Савецкай Рэспублікай і дэклараваў поўнае вызваленне беларускага народа ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, на свеце не многа было такіх, што прарочылі паўстаючаму новаму грамадска-гаспадарчаму арганізму доўгую будучыню. Але наперакор усялякім маладушным маловерам і заядлым ворагам беларускі народ паказаў, што ён здольны на вялікі подзвіг у імя сваёй будучыні.

Ад пачатку свайго існавання Савецкая Беларусь імкнулася ўстанавіць прыязныя сувязі з усімі народамі, асабліва ж з бліжэйшым сваім суседам — польскім народам. Аднак правячыя памешчыцка-буржуазныя колы ў паўстаўшай Польскай дзяржаве рабілі ўсё, каб не дапусціць да ўзнікнення і ўмацавання сяброўскіх адносін паміж нашымі абодвума брацкімі народамі. У той час, калі польская буржуазія і абшарнікі адарвалі ад Беларусі і запаланілі яе заходнюю частку, за правы ўсяго беларускага народа да самавызначэння і аб'яднання ў адзінай дзяржаве, Беларускай ССР, паслядоўна выступала ад пачатку сваёй дзейнасці Камуністычная партыя Польшчы, яна мабілізавала польскую грамадскасць у абарону праследаваных санацыяй дзеячоў Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, Беларускай сялянска-рабочай Грамады, Таварыства беларускай школы і іншых прагрэсіўных беларускіх арганізацый. Калі легіянеры і паліцыя крывава распраўляліся з партызанамі Дукоры на Міншчыне, варшаўскі літаратар Багдан Жыранік з захапленнем зб раў на суседнім Палессі беларускую народную творчасць, вывучаў гісторыю беларускай літаратуры і перакладаў на польскую мову творы Цёткі, М. Багдановіча, Я. Купалы, Я. Коласа. У 1932 годзе калі канцэнтрацыйны лагер у Картуз-Бярозе і турмы ў Равічы, Беластоку, Вільні былі перапоўнены беларускімі змагарамі, выдатны польскі археолаг прафесар Уладзімір Антаневіч паехаў у Савецкую Беларусь, наведаў Акадэмію навук БССР, Беларускі універсітэт і іншыя навуковыя ўстановы, выступіў з дакладам і запрасіў беларускіх археолагаў да блізкага супрацоўніцтва. А з групай перадавой польскай інтэлігенцыі ў Вільні, у якую ўваходзілі відны палітычны дзеяч С. Ендрыхоўскі, лекар Е. Штахельскі, пісьменнік Е. Путрамент і шэраг іншых выдатных людзей, цесна супрацоўнічалі дзеячы беларускага рэвалюцыйнага руху і паэты М. Танк, П. Пестрак, М. Васілёк, М. Машара і іншыя.

У найцяжэйшым выпрабаванні, у змаганні супраць гітлераўскіх захопнікаў, у партызанскія атрады на Беларусі часта ўваходзілі польскія сябры, а на паняволеных польскіх землях змагаліся разам з сваімі польскімі таварышамі беларускія партызаны. Пад беларускай вёскай Леніна на Магілёўшчыне ў першы свой бой пайшлі часці адроджанага Людовага Войска Польскага, некалькі дзесяткаў тысяч савецкіх салдат і афіцэраў беларусаў аддало сваё жыццё пры вызваленні Польшчы. Сёння цяжка знайсці такога беларуса старэйшага ці сярэдняга ўзросту — селяніна, рабочага, вучонага, грамадскага дзеяча, пісьменніка — які б не ўдзельнічаў у змаганні за вызваленне Беларусі і Польшчы. У верасні 1939 года Гдыню бараніў сённяшні выдатны беларускі празаік Янка Брыль, недзе над Віслянскім залівам каля Бранева ў брацкай магіле спачывае загінуўшы ў баю ўжо вясною 1945 года беларускі паэт Сяргей Крывец, пад Леніна на Магілёўшчыне ў памятны дзень 12 кастрычніка 1943 года аддаў сваё жыццё капітан Войска Польскага Пётр Высоцкі, родам з Бельска Падляшскага.

Працяг на стар. 4

Ніны Мушынскай прадстаўляць нашым чытачам няма неабходнасці. Душа гарадоцкага хору, як мы яе часта называлі, даўно ўжо стала постаццю агульнавядомай у нашым асяроддзі. Але гарадоцкіх харыстак прывыклі мы бачыць толькі на сцэне. З прыемнай усмешкай, з сардэчнай песняй. Што адбываецца па-за сцэнай, заставалася таямніцай гарадчанак. Адкрыць яе стараецца нам Ніна Мушынская. Вядома, гэта будзе гісторыя, бачаная яе (Мушынскай) вачыма. Не прэтэндуе яна на поўнае адлюстраванне багатага жыцця калектыву. Гэта проста аднаму чалавеку немагчыма. Кожны з нас на адны і тыя самыя факты глядзіць па-свойму і іншае бачыць. Але гэта прывілей успамінаў. У адным мы пераканаными, што „сваё", расказанае Нінай Мушынскай, будзе блізкім нашым чытачам.

Лічым таксама, што ўспаміны Ніны Мушынскай з'яўляюцца прыгожым падарункам свайму калектыву, які ў гэтым годзе адзначае 25-годдзе песеннай дзейнасці.

**УСПАМІНЫ (I)**




### АД ЧАГО ПАЧАЦЬ?

Першыя гады, як дзіцячыя крочкі. Няўпэўненыя, некаардынаваныя. Невядома ад чаго пачаць. Час, патрабаванні, грамадская цяга вучылі, што рабіць.

У 1945-46 гадах сама не арганізавала, але была ў драмгуртку, які стварылі даваенныя артысты-аматары, былыя члены КПЗБ. Тады менавіта пачула я ў сябе мастацкае натхненне. Апрача ігры на сцэне, пачала я маляваць і рабіць да п'ес, якія ставілі, дэкарацыю. Вынікі былі задавальняючыя. Неўзабаве, нейк само па сабе, апынуўся ў маіх руках і руль кіравання калектывам.

У 1946 годзе ў Гарадку ўзнік гурток Лігі жанчын. Мяне выбралі старшынёй. Гурток быў вялікі. Многія ішлі ў нашу арганізацыю з думкай атрымаць часцей селядцоў, маргарыну і сухога малака. Гэтыя памыліліся, вядома. Ліга жанчын памагала жанчынам, але ў іншай форме. Напрыклад, двое дзяцей-сірот (бацькі загінулі ў вайну) уладкавалі мы ў дзіцячым доме ў Барташыцах, некалькі дзяўчат паслалі на курсы, старэйшым памаглі пачаць навуку ў Народным універсітэце і г.д.

Цяжка было працаваць маці-ўдовам, у якіх былі малыя дзеці. Нарадзілася думка, каб арганізаваць прадшколле. На першым сходзе прынялі адпаведную пастанову, выслалі яе ў Інспектарат асветы. Неўзабаве прыйшоў адказ: падшукаць дом з плошчай для гульняў і прыслаць план размяшчэння.

Плану задарма ніхто не хацеў рабіць, а грошай мы не мелі. Давялося і план рабіць. Зрабіла я яго з Аннай Абрамовіч і павезла ў Беласток. Цяжка ішло. Хадзіла ад Інспектарата да архітэктара і наадварот. Хадзіла і змагалася да перамогі. Інспектар Засада (памёр ужо даўно) не вытрымаў і сказаў: — Не дарма бытуе пагаворка, што дзе чорт не дасць рады, туды бабу пашле.

Атрымала я дазвол на рамонт (добра зрабілі мы план) і нават крыху грошай.

Дом, у якім планавалі мы змясціць прадшколле быў пасляняменцкі. Але жыў у ім кватарант. Даведаўшыся аб нашых намерах, катэгарычна заявіў, што не выйдзе з гэтага памяшкання. Дзейнічалі мы паслядоўна. Знайшлі ўпартаму кватаранту іншае памяшканне. І доўга не чакалі. Не хацеў уступіць дабраахвотна, дык мы нанялі фурманку і, як вялікага пана, перавезлі сілаю. Інцыдэнт нямілы, але чаго не зробіш дзеля агульнага дабра. Грамадзянін гэты жыве дагэтуль у Гарадку і адабрае наш учынак.

Цяжка было зрабіць патрэбны рамонт за малыя грошы, і большую частку працы выканалі мы грамадскім чынам. Мабілізавалі на яе нават бацькоў.

Дом адрамантаваны. Прыехаў павятовы архітэктар і сказаў: — Толькі жанчыны патрапяць за такія малыя грошы зрабіць так многа працы.

Рамонт дома за намі, але тут жа выраслі новыя турботы. Інспектарат асветы не фінансуе прадшколляў на перыферыі, вядзе іх толькі ў горадзе. Трэба было знайсці такую арганізацыю,

Працяг на стар. 4

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ.



**З ЦЫКЛА „КРАСКІ НОЧЫ“**

* ✲ *

*Ноч краму адкрыла —*
*гараскопы,*
*таленты,*
*каму лёс,*
*прыгажосць —*
*за кожным гарантыя...*
*Пранізаўшы паўнеба,*
*раптам*
*зорка упала*
*— нехта*
*ішоў з рэкламацыяй.*

* ✲ *

*Пеўні ноч*
*папяросай*
*запалілі на ўсходзе.*
*Уздыхнуў панадворак,*
*з жалем*
*скрыпнулі дзверы,*
*цемра са страху*
*палезла пад дрэвы.*
*Толькі месяц,*
*не змогшы*
*з уладай расстацца,*
*узяў, чудак,*
*сонцу паверыў.*

**Міхась Шаховіч**



* ✲ *

Цела мае пад дахам.
Душа ў дажджы мокне.
І вечар стаецца страхам,
Што стукае ў цёмныя вокны.

Расце ўва мне чаканне,
Хаця не чакаю нічога.
Расце ўва мне каханне,
Хаця не кахаю нікога.

Эх, восень, лірычны мой роздум,
Як жоўты мядзведзь крываногі,
Як студня пустая — розум,
Як сузор'і — дарогі.

**Міша Андрасюк**

## СТУДЫЯ АДНАГО ВЕРША

# „У снег, як у царкву, можна ўвайсці“

Паэзія Яна Чыквіна належыць да дзвюх літаратур: польскай і беларускай. Такая вось падвойная кандыцыя праектуе існаванне паэта і яго паэзію. Чыквін з'яўляецца таксама русістам. І так атрымаем амаль поўны вобраз яе абумоўленасці.

Інспірацыі паэзіі Чыквіна трэба шукаць галоўным чынам у рускай лірыцы пачатку XX ст. Гэта свядомы выбар, а не падпарадкаванне ўзорам. Аўтару „Неспакою“ характэрны індывідуальныя адносіны да традыцый, дазваляючыя на свядомае якраз выбіранне і адкіданне.

Ужо пры першым, нават павярхоўным чытанні гэтага верша звяртае нашу ўвагу яго музычнасць, не сустракаемая бадай што сёння ў польскай паэзіі, дбайнасць аб меладычнасці і рытме твора. Беларускі ці рускі верш заўсёды вызначаўся значнай мелодыкай. Асаблівага значэння гэтай справе надалі рускія сімвалісты. Б. Эйхенбаум пісаў: „Лірычны твор можа быць таксама апісальны, як апавядальны ці дыялагічны, але ад эпапеі і драмы адрознівае яго спецыяльная „лірычная“ інтанацыя. Лірычная інтанацыя для іх з'яўляецца чымсьці зусім акрэсленым і вельмі важкім у семантычным сэнсе. Гэтае назіранне можна поўнасцю прымяніць да інтэрпрэтаванага твора. Мае ён як бы два вымярэнні: літаратурнае і музычнае, што нясе за сабою шматлікія паслядоўнасці. Неабходнай умовай уздзеяння такога верша з'яўляецца дасканалае аб'яднанне гэтых дзвюх сфер. Літаратурную семантыку ў гэтым творы дадаткова падкрэслівае мелодыка. Апрача гэтага, мае ён выразную, дзялімую на тры часткі, пабудову. Кожнай такой частцы адпавядае чарговая страфа. Можна гаварыць тут аб свабоднай трактоўцы вядомай музычнай схемы АВА, таму што, нягледзячы на трохчастковую пабудову, абапіраецца ён на бесперапынна развіваючайся мелодыі. Апошнія два радкі другой страфы з'яўляліся б кульмінацыйным пунктам, пасля чаго мелодыка пераходзіць у каданс, паўтараючы мадыфікаваную тэму першай страфы. Эйхенбаум называе такую форму рамансавай. Піша ён: „У рамансе кампазітар глыбей унікае ў змест твора, чым у песні; звычайна не абмяжоўваецца ён да формы двухчленнай, як гэта дзеецца ў песні, але згодна са зместам тэкста піша для кожнай страфы новую музыку, што дазваляе перадаць музыкай не толькі агульны сэнс твора, але і ўваходзіць у яго дробязі, характарызаваць, апісваць. Калі ў новай страфе раманса паўтараецца — для акруглення — мелодыя папярэдняй страфы, дык найчасцей у зменлівай форме“.

Аналізуемы верш Чыквіна мае цудоўную, прадуманую да найдрабнейшых падрабязнасцяў кампазіцыю. Строфы першая і трэцяя лічаць па чатыры радкі, а сярэдняя, іншая, чым дзве ранейшыя, мае пяць радкоў. Калі прымем, што ў версіфікацыйным запісе заключаны інтэрпрэтацыйныя прадпасылкі, то гэта ўжо важкі след для абмяркоўкі.

Верш „У снег, як у царкву...“ ёсць эротыкам на тэму амаль штодзённую, але як жа часта драматычную — мінуўшага кахання. Адыход аднаго з каханых прыводзіў неаднойчы да трагедыі. Тут аднак дамінуе настрой задумення, меланхоліі, раздумвання. Увесь твор з'яўляецца наскрозь „літаратурны“. Паэт для выражэння пэўных станаў сваёй псіхікі выкарыстоўвае літаратурны намёк, стылізацыю, небывала па-мастацку, зрэшты. Адкрывае верш зварот сапраўды ў стылі барока, вялікай паэтычнай красы. Апрача таго, кожнае слова як бы іскрыцца другім значэннем, паэтычнай недамоўкай. Асаблівую ж увагу звяртаюць два словы: „снег“ і „царква“, словы падобнай эмацыянальнасці і пачуццёвай афарбоўкі. Царква — святое месца; незаплямленая бель снегу таксама наводзіць думку аб прыналежнасці гэтага слова да кругу sacrum. Значыць той, хто мае ўвайсці ў святое месца, павінен сам апрануць на сябе белае адзенне. Два наступныя радкі падкрэсліваюць аднак, што гэта не вясельнае ўбранне. Яшчэ раз варта звярнуць увагу на надзвычайную гукавую арганізацыю паасобных радкоў, функцыянальную і сугучную з семантыкай. Першы радок распачынаюць тры аднаскладовыя словы, на фоне якіх тым больш выдзяляецца двухскладовае шматзначнае слова „царква“.

Радок, распачынаючы наступную страфу, высвятляе прычыну ўзнікшага стану рэчаў: „Яе слядоў даўно няма“ — у гэтай фразе сказана ўсё. А спасылка на пару літаратурных каханкаў дазваляе перадаць размер страты без лішніх слоў. Гэта якраз дасканалы прыклад застасавання літаратурнага намёку, калі аўтар не паслугоўваецца словамі як знакамі з адным дакладным сэнсам але ўжывае іх па-мастацку, каб выказаць тое, чаго даслоўна выказаць не хоча. Ва ўсім гэтым творы паэт нічога не гаворыць да канца, самае большае — унушае Ці не паказвае гэта на сувязь Чыквіна з паэзіяй рускіх сімвалістаў? Падкрэслівалі яны, што паэтычная тэма павінна знаходзіцца з другога боку слова, як штосьці нявыказанае, нявыгаваранае. Іменна настрой верша, гармонія мелі замяніць слабасць слова. І такімі элементамі Чыквін карыстаецца найахвотней. Любоў Таццяны і Анегіна была вельмі складанай, не паддаючаяся адназначнай інтэрпрэтацыі, як хаця б асвечаныя ў заходняй традыцыі вялікія каханні Рамэа і Джульеты ці Трыстана і Ізольды. Паўторанае двухразова „няма“ — у першым і чацвёртым радку другой звароткі — побач з музычнымі эфектамі, нечувана лапідарна адлюстроўвае страту каханай. І наогул лексіка, перадаючая страту каханай, тут скромная, бо паэт ведае, што асноўныя праўды чалавечага лёсу можна выказаць толькі простымі словамі. Пацвярджае гэта ранейшы тэзіс, што паэзія Чыквіна не стараецца эпатаваць чытача элегантнай лексікай ці дзівоснымі семантычнымі супастаўленнямі.

Страфа, замыкаючая твор, мае ў сабе нечаканую значную эмацыянальнасць. Яна наскрозь эратычная. Ізноў звяртае ўвагу надзвычайны адбор лексікі. Распачынаюць яе выклічнікавыя выражэнні, кароткія, як бы абарваныя: „у снег, у снег!“. Пачатак першага радка гэтай страфы паралельны да пачатку першага радка першай страфы. Паўтарэнне гэтае ёсць таксама паўтарэнне мелодыкі першай страфы, хоць тут выконвае зусім другую функцыю. Калі там яна адлюстроўвала меланхалічнае задуменне і звальняла рытм выказвання, то тут наадварот — паскарае, абазначае нецярплівасць. А „спапяленне“ снегу гарачаю рукой з'яўляецца тоесамасцю нецярплівага скідання пакрывала з ложка кахання. Вырысоўваючаяся з-пад снегу зялёная трава (колер зялёны гэта ж колер надзеі) абяцае сустрэчу з каханай. Гармоніі, дамінуючай ва ўсім вершы, не змагла ж знішчыць цень юнацкай нецярплівасці. У апошніх радках вяртаецца настрой спакою і задуменнасці.

Цікава было б прааналізаваць функцыю часу ў гэтым вершы. Выявілася б, што ўсё, што ў ім дзеецца, знаходзіцца ў іншым вымярэнні, паза фізічным часам і прастораю. У вымярэнні універсальным, у свеце, на які не мае ўздзеяння час.

Верш гэты з'яўляецца незвычайным эротыкам, клубяцца ў ім праўдзівыя пачуцці, але іх сублімацыя надае яму тон праўдзіва Рылькаўскі, халодны, амаль незямны.

**Вальдэмар Смашч**

* ✲ *

*Уваходзь ты сонца*
*У шырокія вокны.*
*Пазалаці маленькім промыкам*
*Асвяжы ты*
*Хоць глыток паветра.*
*У кутках гэтай прыстані*
*Паваюй ты з праданымі снамі...*
*Дакраніся ты сонца*
*Хоць да адной струны*
*Прабудзі яе*
*А калі пачую*
*Хоць ціхенькі стук у сэрцы*
*Я стану жыць...*

* ✲ *

*поўдзень*
*а твой поезд блудзіць у вячэрнім тумане*
*вязеш стомлены час у кішэні*
*у зубах*
*шчыміць родны дом...*

* ✲ *

*разбіць слова*
*каб засвяціў яго нерв*
*цёплы сон*
*праходзіць праз дом зубоў*
*усё спіць...*
*калі кончыцца падарожжа*
*выйграны білет*
*варты*
*халоднай расы*
*і*
*добрага чыстага фіялету...*
*твой позірк*
*каб мог*
*высушыць крыніцу музыкі*
*і праясніць хаця кусок дарогі...*
*белая лічба*
*няхай уцячэ з гэтага канцэрта*
*сцэна ў верасавым чаканні*

**Н. Артымовіч**

## ЛІТАРАТУРНЫ КОНКУРС

Пачынаючы ад студзеня бягучага года аб'яўляем сярод маладых, пішучых на беларускай мове, конкурс на найцікавейшы літаратурны твор месяца. Тэма, жанр і форма па выбару. Творы, выразна перапісаныя, прысылайце на адрас рэдакцыі тыднёвіка „Ніва“ з дапіскай на канверце „Літаратурны конкурс“. Ацэнку будзем праводзіць штомесяц. Прозвішчы пераможцаў, якія чакаюць кніжныя ўзнагароды і магчымасць надрукавання твора, будуць пададзены на літаратурнай старонцы да ведама чытачоў. Чакаем першых удзельнікаў.




| СТУДЗЕНЬ | ЛЮТЫ | САКАВІК | КРАСАВІК |
|---|---|---|---|
| **1 19 П Новы год** | 1 19 Ч Арсенія | 1 16 Ч Памфіла | **1 19 Н Дар'і** |
| 2 20 А Ігната | 2 20 П Яўфімія | 2 17 П Фёдара | 2 20 П Святланы |
| 3 21 С Юльяніі | 3 21 С Яўгенія | 3 18 С Льва | 3 21 А Якава |
| 4 22 Ч Анастасіі | **4 22 Н Ляонція** | **4 19 Н Сырапусн.** | 4 22 С Ісакія |
| 5 23 П Паўла | 5 23 П Клімента | 5 20 П Агафона | 5 23 Ч Лідзіі |
| 6 24 С *Куцця* | 6 24 А Ксеніі | 6 21 А Цімафея | 6 24 П Арцемія |
| **7 25 Н Раждж.** | 7 25 С Віталія | 7 22 С Філіпа | 7 25 С *Благавешч.* |
| 8 26 П *Саб. Пр. Б.* | 8 26 Ч Марыі | 8 23 Ч Дз. жан. | **8 26 Н Алы** |
| 9 27 А Сцяпана | 9 27 П Іана | 9 24 П Іана | 9 27 П Іана |
| 10 28 С Агафіі | 10 28 С Яфрэма | 10 25 С Тараса | 10 28 А Сцяпана |
| 11 29 Ч Марка | **11 29 Н Ігнація** | **11 26 Н Міраслава** | 11 29 С Марка |
| 12 30 П Анісіі | 12 30 П *Трох св.* | 12 27 П Пракопа | 12 30 Ч Захара |
| 13 31 С *Шчодры в.* | 13 31 А Віктара | 13 28 А Васілія | 13 31 П Апалонія |
| **14 1 Н Новы год** | 14 1 С Пятра | 14 1 С Антаніны | 14 1 С Марыі |
| 15 2 П Сяргея | 15 2 Ч *Срэценне* | 15 2 Ч Фядота | **15 2 Н Вялікдзень** |
| 16 3 А Малахіі | 16 3 П Сымона | 16 3 П Яўтропія | **16 3 П Вялікдзень** |
| 17 4 С Афанасія | 17 4 С Ісідара | 17 4 С Паўла | 17 4 А Іосіфа |
| 18 5 Ч *Куцця* | **18 5 Н Агаты** | **18 5 Н Іраіды** | 18 5 С Платона |
| 19 6 П *Хрышч.* | 19 6 П Хрысціны | 19 6 П Аркадзія | 19 6 Ч Платаніды |
| 20 7 С Іана Хр. | 20 7 А Парфена | 20 7 А Васілія | 20 7 П Георгія |
| **21 8 Н Георгія** | 21 8 С Фёдара | 21 8 С Феафілакт. | 21 8 С Ірадзівона |
| 22 9 П Філіпа | 22 9 Ч Нікіфара | 22 9 Ч *40 муч.* | **22 9 Н Вялікдзень** |
| 23 10 А Грыгорыя | 23 10 П Валянціны | 23 10 П Леаніда | 23 10 П *Вялікдзень* |
| 24 11 С Міхаіла | 24 11 С Усевалада | 24 11 С Георгія | 24 11 А *Радаўніца* |
| 25 12 Ч Таццяны | **25 12 Н Мясапусн.** | **25 12 Н Сымона** | 25 12 С Васілія |
| 26 13 П Якава | 26 13 П Зоі | 26 13 П Цярэнція | 26 13 Ч Артамона |
| 27 14 С Ніны | 27 14 А Кірылы | 27 14 А Венядзікт. | 27 14 П Антона |
| **28 15 Н Паўла** | 28 15 С Анісіма | 28 15 С Аляксандр. | 28 15 С Мсціслава |
| 29 16 П Леанілы | | 29 16 Ч Міраславы | **29 16 Н Галіны** |
| 30 17 А Антонія | | 30 17 П Аляксея | 30 17 П Адрыяна |
| 31 18 С Кірылы | | 31 18 С Кірылы | |

| МАЙ | ЧЭРВЕНЬ | ЛІПЕНЬ | ЖНІВЕНЬ |
|---|---|---|---|
| **1 18 А Св. Працы** | 1 19 П Дз. дзіцяці | **1 18 Н Ляонція** | 1 19 С Макрыны |
| 2 19 С Антона | 2 20 С Аляксея | 2 19 П Іуды | 2 20 Ч *Ільі* |
| 3 20 Ч Гаўрыіла | **3 21 Н Канстанц.** | 3 20 А Іны | 3 21 П Сымона |
| 4 21 П Сакрата | 4 22 П Васіліска | 4 21 С Юльяна | 4 22 С Марыі |
| 5 22 С Віталія | 5 23 А Еўфрасініі | 5 22 Ч Галакціёна | **5 23 Н Трафіма** |
| **6 23 Н Георгія** | 6 24 С Сцяпана | 6 23 П Арцемія | 6 24 П Барыса |
| 7 24 П Фамы | 7 25 Ч Ферапонта | 7 24 С *Іана Хр.* | 7 25 А *Ганны* |
| 8 25 А Яраслава | 8 26 П Ялены | **8 25 Н Леанілы** | 8 26 С Ермалая |
| 9 26 С Дз. Перам. | 9 27 С Фядоры | 9 26 П Давіда | 9 27 Ч *Панцеляйм.* |
| 10 27 Ч Сымона | **10 28 Н Тройца** | 10 27 А Іанны | 10 28 П Прахора |
| 11 28 П Кірылы | 11 29 П *Дз. Св. Д.* | 11 28 С Сяргея | 11 29 С Серафімы |
| 12 29 С Фядота | 12 30 А Рамана | 12 29 Ч *Пятра* | **12 30 Н Валянціна** |
| **13 30 Н Якава** | 13 31 С Ермія | 13 30 П 12 апост. | 13 31 П Юліты |
| 14 1 П Тамары | **14 1 Ч Бож. Цела** | 14 1 С Кузьмы | 14 1 А Маккавеяў |
| 15 2 А Барыса | 15 2 П Нікіфара | **15 2 Н Ювеналія** | 15 2 С Сцяпана |
| 16 3 С *Прапалав.* | 16 3 С Паўлы | 16 3 П Анатолія | 16 3 Ч Кузьмы |
| 17 4 Ч Пелагеі | **17 4 Н Засімы** | 17 4 А Андрэя | 17 4 П Канстанц. |
| 18 5 П Адрыяна | 18 5 П Ігара | 18 5 С Афанасія | 18 5 С Іанны |
| 19 6 С Дзяніса | 19 6 А Сасанны | 19 6 Ч Валянціна | **19 6 Н Спаса** |
| **20 7 Н Ніла** | 20 7 С Клаўдзія | 20 7 П Фамы | 20 7 П Дамеція |
| 21 8 П Пімена | 21 8 Ч Фёдара | 21 8 С Пракопа | 21 8 А Грыгорыя |
| 22 9 А *Мікалая* | 22 9 П Марфы | **22 9 Н Св. Адр.** | 22 9 С Дзмітрыя |
| 23 10 С Таісіі | 23 10 С Антаніны | 23 10 П Антона | 23 10 Ч Рамана |
| 24 11 Ч Мяфодзія | **24 11 Н Варфалам.** | 24 11 А Ольгі | 24 11 П Сасанны |
| 25 12 П Германа | 25 12 П Ануфрыя | 25 12 С Міхаіла | 25 12 С Аляксандр. |
| 26 13 С Дз. маці | 26 13 А Іана | 26 13 Ч Гаўрыіла | **26 13 Н Ірынея** |
| **27 14 Н Ісідара** | 27 14 С Мсціслава | 27 14 П Анісіма | 27 14 П Міхея |
| 28 15 П Пахомія | 28 15 Ч Амоса | 28 15 С Уладзіміра | 28 15 А *Успенне* |
| 29 16 А Аляксандр. | 29 16 П Ціхана | **29 16 Н Аляўціны** | 29 16 С Дзяміда |
| 30 17 С Славаміра | 30 17 С Мануіла | 30 17 П Марыны | 30 17 Ч Мірона |
| 31 18 Ч *Вазнясенне* | | 31 18 А Емяльяна | 31 18 П Емяльяна |

| ВЕРАСЕНЬ | КАСТРЫЧНІК | ЛІСТАПАД | СНЕЖАНЬ |
|---|---|---|---|
| 1 19 С Андрэя | 1 18 П Соф'і | **1 19 Ч Усіх Св.** | 1 18 С Платона |
| **2 20 Н Самуіла** | 2 19 А Канстанц. | 2 20 П Арцёма | **2 19 Н Аўдзея** |
| 3 21 П Фадзея | 3 20 С Алега | 3 21 С Іларыёна | 3 20 П Анатолія |
| 4 22 А Яўлаліі | 4 21 Ч Андрэя | **4 22 Н Казан. ік.** | 4 21 А *Увядзенне* |
| 5 23 С Ірынея | 5 22 П Іоны | 5 23 П Ігната | 5 22 С Валяр'яна |
| 6 24 Ч Георгія | 6 23 С Іраіды | 6 24 А Афанасія | 6 23 Ч *Аляксандр.* |
| 7 25 П Варфалам. | **7 24 Н Уладзісл.** | **7 25 С Кастр. рэв.** | 7 24 П *Кацярыны* |
| 8 26 С Наталіі | 8 25 П Сяргея | 8 26 Ч Дзмітрыя | 8 25 С Клімента |
| **9 27 Н Пімена** | 9 26 А Іана | 9 27 П Нестара | **9 26 Н Інакенція** |
| 10 28 П Анны | 10 27 С Марка | 10 28 С Неанілы | 10 27 П Паладзія |
| 11 29 А *Усячэнне* | 11 28 Ч Вячаслава | **11 29 Н Анастасіі** | 11 28 А Сцяпана |
| 12 30 С Аляксандр. | 12 29 П Дзень ЛВП | 12 30 П Маркіяна | 12 29 С Нектарыя |
| 13 31 Ч Генадзія | 13 30 С Рыгора | 13 31 А Нікадзіма | 13 30 Ч *Андрэя* |
| 14 1 П Сымона | **14 1 Н Пакрова** | 14 1 С *Кузьмы* | 14 1 П Навума |
| 15 2 С Маманта | 15 2 П Канстанц. | 15 2 Ч Афонія | 15 2 С Авакума |
| **16 3 Н Яўфімія** | 16 3 А Дзяніса | 16 3 П Іосіфа | **16 3 Н Фёдара** |
| 17 4 П Вавіла | 17 4 С Веранікі | 17 4 С Нікандра | 17 4 П *Варвары* |
| 18 5 А Раісы | 18 5 Ч Пятра | **18 5 Н Рыгора** | 18 5 А Савы |
| 19 6 С Макара | 19 6 П Фамы | 19 6 П Алякс-дры | 19 6 С *Мікалая* |
| 20 7 Ч Сазонта | 20 7 С Юльяна | 20 7 А Фядота | 20 7 Ч Антонія |
| 21 8 П *Раждж. Б.* | **21 8 Н Таісіі** | 21 8 С *Міхаіла* | 21 8 П Патапа |
| 22 9 С Анны | 22 9 П Якава | 22 9 Ч Анісіфара | 22 9 С Ганны |
| **23 10 Н Пятра** | 23 10 А Яўлампія | 23 10 П Радзівона | **23 10 Н Ангеліны** |
| 24 11 П Сяргея | 24 11 С Зінаіды | 24 11 С Віктара | 24 11 П Данілы |
| 25 12 А Юльяна | 25 12 Ч Кузьмы | **25 12 Н Ніла** | **25 12 А Раждж.** |
| 26 13 С Карніла | 26 13 П Веніяміна | 26 13 П Нікіфара | **26 13 С Яўгенія** |
| 27 14 Ч *Уздзвіж.* | 27 14 С Параскевы | 27 14 А Філіпа | 27 14 Ч Апалона |
| 28 15 П Мікіты | **28 15 Н Яўфімія** | 28 15 С Гурыя | 28 15 П Паўла |
| 29 16 С Людмілы | 29 16 П Лонгіна | 29 16 Ч Мацвея | 29 16 С Феафаніі |
| **30 17 Н Веры** | 30 17 А Ляонція | 30 17 П Нікана | **30 17 Н Азарыя** |
| | 31 18 С Іосіфа | | 31 18 П Зоі |

